Цана асобнага нумару 1000 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **10.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Напрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 2500 мк., сярод тэксту 2000 м. і на 4 стр. 1500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

**№ 8** | **Субота, 30-га чэрвеня 1923 г.** | **Год I.**

## Дыпляматычныя падарожы.

Калі дыпляматы пачынаюць лішне многа езьдзіць, дык гэта нічога добрага для народаў не варожыць. Яшчэ горш, калі ў палітычныя падарожы пускаюцца генаралы і каралі.

Пасьля Фошаў, Кевэнаў — у Польшчу прыехаў румынскі кароль з жонкай, старшынёй рады міністраў, міністрам заграничных спраў і вялікай грамадой другіх вышэйшых чыноў. Сустракалі „дарагіх гасьцей" — як належыцца: дарагімі яны былі ўжо хаця-бы затым, што прыём іх абыйшоўся ўсяму народу пэўна не адзін дзесятак міліярдаў марак.... Ну, але ўжо бог з імі—з гэнымі маркамі: ізноў іх надрукуюць, колькі трэба. Горш тое, што ад гэных візытаў могуць быць дужа сур'ёзныя палітычныя вынікі—больш страшныя, чым страта пару дзесяткаў міліярдаў.

Вельмі характэрны выступленьні ў гэтай справе цяперашняга ўрадовага органу—„Gazety Warszawskiej". На другі дзень візыты румынскае каралеўскае пары гэная газэта памясьціла перадавую стацьцю аб адносінах да Савецкае Расеі. На першы пагляд, здаецца, што эндэцкая газэта мае найлепшыя імкненьні да міру. Яна гаворыць аб тым, што Расея, калі хоча жыць у добрай згодзе з Польшчай, павінна ні на валасок не адступаць ад літары рыскага трактату. Але няма такіх трактатаў, аб якіх можна было-бы напэўна сказаць, што падпісаўшыя іх староны зусім аднолькава разумеюць гэную „літару". І калі „Gaz. Warsz." заяўляе, што Польшча ня згодзіцца ні на якія адступленьні ад літары трактату, дык гэта трэба разумець, што яна не адступіць ад **свайго** тлумачэньня трактату і яго пастановаў. І гэта ўжо пахне пагрозай; бо што выйдзе, калі ў тлумачэньні таго ці іншага пункту „мілыя суседзі" разойдуцца?

Адказ на гэтае пытаньне знаходзім у папярэднім нумары газэты. Побач з апісаньнем прыёмаў румынскіх гасьцей „Gaz. Warsz." друкуе зьмест польска-румынскае ваеннае умовы, скіраванай беспасярэдна проціў Савецкае Расеі. Артыкул і ўмовы даслоўна гаворыць:

„Польшча і Румынія абязуюцца памагаць сабе ўзаемна ў прыпадку, калі-б на адну з іх, бяз поваду з яе боку, была зроблена напасьць на яе цяперашніх усходніх граніцах. У выніку гэтага, калі-б на адну з гэтых дзьвюх дзяржаваў, бяз поваду з яе боку, была зроблена напасьць, дык і другая будзе лічыць сябе ў стане вайны і дасьць ёй аружную дапамогу".

Прамовы румынскага караля і прэзыдэнта Войцеховскага зусім выразна пацьвярдзілі, што гэная умова ляжыць у аснове добрых польска-румынскіх адносін.

Далей, у артыкуле II умовы йдзе гутарка аб тым, што, „каб узгодніць свае мірныя высілкі, абодва ўрады абязуюцца паразумевацца ў справах замежнае палітыкі, датыкаючых іх адносін з усходнімі суседзямі".

Як відаць, сучасны мамэнт як раз і вымагае такога паразуменьня, дык у Польшчу і прыехалі „дарагія госьці" ў такой вялікай грамадзе. А стацьця „Gaz. Warsz." аб адносінах Польшчы да справы выпаўненьня рыжскага трактату паказваюць, у якой плоскасьці маюць адбывацца польска-румынскія палітычныя нарады.

Ясна, што ўсё гэта ня сьведчыць аб „міры і спакою". А весткі аб праектаваным дапушчэньні на польскай і румынскай землях арганізацыі расейскіх „белагвардзейскіх" войск коштам Францыі, як наказывае бэрлінскае „Время", толькі павялічваюць трывогу за захаваньне міра на даўжэйшы час.

**Лаўрыновіч.**

## Змагаймася.

Калі беларускі народ апынуўся ў межах Польшчы, дык думаў, зусім здавалася-б слушна, што польскі народ, скінуўшы нядаўна ярмо няволі, не захоча яго ўзьдзяваць другому народу. Беларускі народ кінуўся да творчасьці, стаў будаваць сваю культуру. Сотнямі адчыняліся беларускія пачатковыя школы, закладаліся каапэратывы, вясковыя бібліятэкі, ня было мястэчка і большай вёскі дзе-б не ставіліся беларускія спэктаклі, закладаліся культурна-асьветныя гурткі. Адраджэнскі рух узрастаў стыхійна і вышаў на сьвет дняўны.

Але польскія палітыкі, стаўшыя на чале, а выгадаваныя, як і большая частка польскай інтэлігенцыі, ў клерыкальна-шляхоцкім духу, захацелі стварыць вялікую „od morza do morza" Польшчу. Вялікую не любосьцяй да волі, не гаспадарскім ладам, ня культурай, а вялікай у разуменьні Чынгіс-хана ці якогась маскоўскага цара, які лічыў найбольшай сваей заслугай агнём і мячом далучыць да свайго царства вырваны з крывёй кавалак чужой зямлі.

І цяпер аб геаграфічнай велічы лятуціць нават сучасны прэзыдэнт Войцеховскі, які у Кракаве сказаў;

„Аб малой, слабой і ўбогай Польшчы ня можа быць гутаркі. У тых геаграфічных варунках, у якіх мы цяпер знаходзімся, можым істнаваць толькі як *вялікая* (курс. наш) дзяржава".

І вось, сьнючы аб такай вялікай „ojczyznie", польскія палітыкі пачалі пашыраць граніцы Польшчы ўва ўсе бакі. Ад гэтага стварыліся пытаньні як Галічына, Гданск, Шлёнск, Віленшчына і інш. Найбольшы адпор Польшча пачула на захадзе, спактаўшыся з нямецкай і чэскай культурамі. Ня гледзючы на падтрыманьне Антанты і на свае адчаяныя натугі, Польшча мусіла ўступіць землі з большасьцяй польскага насяленьня, хоць можа крыху і анямечанага. Наступ на захад рошуча быў спынены і ідэя вялікай Польшчы адкацілася ў бок найменшага адпору — на ўсход, на землі з беларускім і ўкраінскім мала асьвядомленным насяленьнем. Тут удалося ласымі абяцанкамі і яшчэ чым іншым далучыць аграмадныя абшары зямлі. Далучыць то іх удалося, але прыклеіць польскую наклейку было ўжо трудней, бо пераважнасьць па ліку гэтых сфальсыфікаваных „mniejszości" і іхні адраджэнскі рух, а тут яшчэ і прадстаўніцтва ў Сойме, ніякімі способамі нельга было замазаць—нават і Віленскі Сойм не памог. І вось пачалося апалячываньне гэтых краін, вынікам чаго беларусы ня маюць школ, каапэратываў, сваіх культурных асяродкаў, але за тое маюць этэрарызаваную інтэлігенцыю, Беластоцкі працэс, а яшчэ будзе Горадзенскі і Віленскі, маюць перакананьне, што ёсьць паважная пагроза іхняму сацыяльнаму і нацыянальнаму бытаваньню.

Адным словам: „Кінь наўкола вокам, дык крывавым сокам, не сьлязой заплачыш, як усё пабачыш", так кажа наш паэт. І сапраўды сумна робіцца, так усё заціхла, анямела, прытоілася, быццам беларускага жыцьця ня было і ня будзе. Але хто трымае пульс жыцьця народу, той пачуе, што ў глыбі народнай душы адбіты ўсе крыўды прычыненныя яму. І цішына гэтая—вось як у бары перад навальніцай.

Асталося нашых устаноў і культурных здабыткаў вельмі мала; што асталося, дык ледзь ліпіць.

Дыхае яшчэ пакуль што беларуская газэта, як надоўга—трудна ўгадаць. Ужо ня кажучы аб грашовых сухотах, кожны з чытачоў ведае, што атручывае жыцьцё газэты і чаму ён яе так не рэгулярна атрымлівае і чаму ёй так трудна казаць аб праўдзе. Але апрача ўсяго гэтага ня толькі сяляне, але і наша інтэлігенцыя баіцца аткрыта атрымліваць беларускую газэту. Рэдакцыі падаюцца заявы, каб прысылаць газэты добра ўкручаныя ў польскія газэты, каб не высылаць да хаты, але адкладаць і пры аказіі падпішчык сам забярэць, каб высылаць у канвэртах і заказнымі пісьмамі, а адзін вучыцель з Лідчыны, прасядзеўшы колькі месяцаў у вастрозе за беларускія газэты і згубіўшы там здароўе, просіць зусім ня высылаць, каб мець магчымасьць пракарміць сямью і зьберагчы астаткі свайго жыцьця. Давялося мне ў мястэчку паказацца з беларускай газэтай сярод тамашняй інтэлігенцыі, дык гэта нарабіла такі перапуд, што сорамна стала за іх і запякло ў нутры ад крыўды, ад болі. Газэтчыкі ў горадзе баяцца браць беларускія газэты да прадажы, бо маюць шмат прыкрасьці ад мясцовай паліцыі. Аказываецца, што беларуская газэта кідае на кожнага яе падпішчыка цень палітычнай нядпэўнасьці, што беларускае друкаванае слова ёсьць „przepustka do paki".

У адказ на гэта я скажу, што кожная беларуская вёска тым ці іншым способам **павінна** атрымліваць сваю газэту, мусіць чытаць сваю газэту. Бо сьмешна, баючыся ваўка, ў лес не хадзіць. Мы, апіраючыся на канстытуцыі, маем права і мусім змагацца за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне.

Сёмы пункт Рыскага трактату, які падпісала Польшча выразна нам кажа аб нашых правох.

„Польшча дае асобам расейскай, украінскай і беларускай нацыянальнасьці, знаходзячымся у Польшчы, на падставе роўнапраўнасьці нацыянальнасьцяў, усе правы, забясьпечваючыя свабоднае разьвіцьцё культуры, мовы і выкананьня рэлігійных абрадаў. Расея і Украіна забясьпечываюць асобам польскай нацыянальнасьці, знаходзячымся ў Расеі, Ук-

раіне і Беларусі, тыя-ж правы. Асобы расейскай, украінскай і беларускай нацыянальнасьцяў у Польшчы маюць права ў абхватах унутранага заканадаўства культывіраваць сваю мову, арганізоўваць свае школы, разьвіваць сваю культуру і ўтвараць з гэтаю мэтай вобчаствы і саюзы. Такімі ж правамі ў абхватах унутранага заканадаўства будуць карыстацца асобы польскай нацыянальнасьці, знаходзячыяся ў Расеі, Украіне і Беларусі."

Тыя-ж правы абясьпечывае нам і Польская канстытуцыя.

Мы мусім змагацца, каб даць пачуць польскаму народу шкоднасьць яго дзікага шовінізму і вылячыць яго.

Мы мусім змагацца за гэтае права, каб утрымаць сьцяг з лёзунгамі працоўных.

Мы мусім змагацца ня з польскім народам, а з прышчэпленымі яму праз буржуазію хваравітымі ідэямі—наш абавязак, як насіцялёў праўды, вучыць, а не ненавідзіць польскі народ, які пэўнаж неўзабаве ачуняе і адкіне сваё служэньне прагавітаму капіталу.

Апрыч таго, мы не павінны здаваць пазыцыі ў нашым змаганьні за нашыя правы чалавека. Газэта, якая адбівае сучаснасьць і намячае шляхі і спосабы змаганьня са злом, дасьць нам моцы і бадзёрчасьці ў змаганьні. Дык падтрымовывайце яе маральна і матэр'яльна чытайце, распаўсюджывайце і складайце ахвяры на прэсовы фонд.

Ідзіце сьвядома і цьвёрдай ступой да сваіх мэт. Пагеройску перанасіце тое, што вас чакае. Бо толькі змагаючыся можна дачакаць паляпшэньня сваей долі.

**Р. Юрг.**

**Суліма.**

## Угодкі далучэньня Шлёнска да Польшчы.

*Gloryfikacja powstania zbrojnego ludu przeciwko gwałtom podstępnej kultury.*

17-га чэрвеня ў Катавіцах „сталіцы" адыйшоўшай да Польшчы частцы Горнага Шлёнску, адбылося урачыстае сьветкаваньне першых угодкаў абняцьця Польшчай улады ў гэнай старонцы, якая была гадоў 700 таму назад аднэй з „лепшых пэрлаў", як гэта за звычай кажуць, „польскай кароны" якая, праўда, тады ні „кароне„ ні ўсяму сьвету не давала асаблівага даходу...

Гісторыя гэтага прылучэньня Шлёнска да Польшчы надта цікава і для нас беларусаў.

За гэтыя 700 гадоў нямецкі прамыслова-тэхнічны геній рукамі мясцовага, пераважна, польскага сялянства стварыў з гэтай калісьці глухое польскае правінцыі адну з самых багатых і важных „жытніц вугальля і мэталаў", якая корміць прамысловую культуру Эўропы. Пакананьне Нямеччыны ў вялікай вайне перачыркнула ўсе яе правы на гэты край, абаснаваныя на даўнасьці ўладаньня і ўложаным у яго капітале. Гэтая аргумэнтацыя, маючая такую пераканаўчую сілу для капіталістычнай Эўропы ў яе колёніяльнай палітыцы, наогул—у яе практыцы прамысловага заваяваньня нават чужых сувэрэнных тэрыторый, была зусім забыта на Парыскай Канфырэнцыі... І там перш пастаноўлена было „ўсемагутнай тройкай" — Лёйд-Джордж—Вільсон — Клемансо — проста аддаць увесь Шлёнск Польшчы.

Але хутка самі верхаводы лёсаў сьвету убачылі, што гэткае разьвязаньне справы занадта ўжо простае... і пастаноўлена было, праз нейкі час раздумоўваньня, пытаньне вырашыць плебісцытам. Не чакаючы плебісцыту, у выніках якога, пасьля сумных для Польшчы галасаваньняў у Варміі, Цешыне і інш. спрэчных абшарах, у ея самае было шмат сумліўнасьці,—нацыянальным героям Шлёнскай Польшчы і... урадовым камісарам Польскай Рэспублікі на спорнай тэрыторыі было падрыхтавана—што граху таіць: справа мінуўшая—пры бязумоўным падтрыманьні францускіх „арбітраў", — аружнае паўстаньне, якое і загарэлася ў красавіку 1921 г.

Паўстаньне было шмат лепш арганізована і шмат лепш удалося, чым тое, што было роўна праз год арганізавана... так-сама на спорнай у той час тэрыторыі Горадзеншчыны літоўска-беларускім урадовым камісарам Разумовічам, пры такім-жа бязумоўным падтрыманьні літоўскіх і, ня столькі ўжо бязумоўным, нямецкіх—уладаў...

Уся спрыяючая Польшчы частка вялікіх дзяржаў лічыла паўстаньне Корфантага па меншай меры памылкай... Рэшта ня была скупа на шмат меней пахлебныя „кваліфікацыі"... Але ўся польская прэса, ўся ў гэтым выпадку „нацыянальна-адзіная" Польшча моцна стаяла на тым, што... інакшага выхаду ня было, што паўстаньне было „naturalnym odruchem polskiej ludności Śląska", якому ня мог не спачуваць (і... не дапамагаць) увесь польскі народ рэшты Польшчы...

І час пакуль што, паказаў, што горнашлёнскі Хмара—Корфанты быў усё-ж такі праў. Праўда, беспасрэдныя вынікі паўстаньня былі зьліквідаваны: „samorzutie", але ўзарова зарганізаныя з „чыста-мясцовых элемэнтаў" Віленшчыны, выбачайце—Польскага Шлёнску, варшаўскімі інструктарамі ген. Жэлігоўскага...выбачайце—Корфантага„паўстанчыя аддзелы"былі ў значнай частцы свайго складу вернуты ў свае аддзелы ў Польшчы і распалажыліся, так сказаць „у Мэрачы", па суседству стаяўшых у самай граніцы Шлёнска вялікіх польскіх вайсковых сілаў. Гарады, захопленыя „работніцка-сялянскай"... калі ня чырванай дык бязумоўна „ружовай" арміяй камісара Корфантага былі зьвернуты, праўда крыху накудлычанымі, акупацыйным уладам Антанты.

Праўда, за гэтую „анты-антанцкую збройную акцыю", падгатаваную ў шлёнскіх „крыювках" катовіцкім „Скамарохам"—Корфантым на лаўку падсудных у міжнародным трыбунале была пасаджана сама „ні ў чым ня вінаватая Польшча, якой сам грозны „пракурор" Антанты—Лёйд Джордж нагаварыў, абрадаваўшыся выпадку, розных страшных і няпрыемных слоў, ня горш самога пракурора Камінскага... Але за тое, як пісалі і гаварылі тады бадай усе ў Польшчы, ня толькі ўдача, хай сабе часовая, але ўжо самы факт паўстаньня зьвярнуў увагу ўсяго сьвету на ненармальныя варункі жыцьця і падрыхтоўванага плебісцыту—пры чыста-нямецкай адміністрацыі і паліцыі—і даказаў усім відавочна чыста польскі характар складу мясцовай людна сьці, а значыць й праваў Польшчы на Горным Шлёнску...

І прыяцелі Польшчы, ня кажучы ўжо аб ёй самой, дужа добра выкарысталі гэтае „аружнае паўстаньне проціў Антанты" ў акупованай праз яе тэрыторыі „з мэтай, каб адарваць яе" і г. д. і за гэтае праступленьне лёндынскі калега пракурора Камінскага дамагаўся для абвінавачынай „bezterminowego więzienia"... іусіх „мясцовых ураджэнцаў Шлёнска" пры паліцэйскіх і пабаровых участках па месцу іх жыхарства—ў Кангрэсоўцы, Пазнані, нашай Віленшчыне і г. д.... і канфіскаты самое „пэрлы" на карысьць... пацярпеўшай у сваім прэстыжу Антанты...

Але, дзякуючы Нямеччыне і Савецкай Расеі, Польшча мела шмат прыхільнікаў у Антанце, і адбыўшыся ўрэшце плебісцыт прайшоў досыць добра, а „высшай інстанцыяй" „інтэрпрэтаваны" быў ужо зусім прыхільна, пры гэтым іменна ў гэтай прыхільнай інтэрпрэтацыі, як правільна пісалі тады пальскія газэты, гэтае самае, так скандальна абурыўшае перад тым увесь эўрапейскі трыбунал паўстаньне Карфантага, і адыграла надта важную ролю: гэткімі рэчамі, як аружнае народнае паўстаньне, кім-бы і як-бы яно ня было арганізована, дэмакратычна-спакойныя дзяржавы Заходу наогул жартаваць ня любяць...

Уся гэтая гісторыя паўтараем надзвычайна цікава для нас белалусаў.

Беларусы з вялікім спачуцьцём хочуць аднесьціся да таго энтузіазму, які выклікае ўва ўсім польскім грамадзянстве ўдача аружнага паўстаньня, якое паднясло работніцкае і сялянскае каранное польскае насяленьне Горнага Шлёнску проціў „уеўшыхся" у караннны польскі масыў Краю нямецкіх прыбышоў.

Хай там на карысьць немцаў гавораць іхная „вышэйшая культура", збудаваныя імі гарады—хішчнікі, заводы, фабрыкі, якія эксплёатуюць работнікаў і сялян, маёнткі абшарнікаў, увесь уложаны ў гэты край культурны і грашовы капітал... Але на карысьць Польшчы ў Шлёнску гаворыь зусім бязсумліўна для ўсіх бяз вынятку палітыкаў Польскай Рэспублікі **дэмакратычная аксіома**: „olbrzymia większość" каранннога польскага насяленьня, праўда, шмат меншая, чымсі на нашых абшарах—беларускага,—і маральная і фактычная перамога была забясьпечана на Шлёнску!..

І цяпер, калі сам прадстаўнік Польскай Рэспублікі, сам вышэйшы і аўтарытэтнейшы прадстаўнік яе дэмакратычнай ідэолёгіі ў катавіцкім сэрцы польскага Шлёнску дае ў сваей прамове урачыстыя ўгодкі злучэньня захопленай нямецкімі хішчнікамі 700 гадоў назад і вернутай **сілаю народнага паустаньня і народнага галасаваньня** часткі чыста польскай зямлі, мы, беларусы, з асаблівай увагай прыслухоўваемся да яго натхнёных словаў.

І калі ён кажа, што „павінен заставіць усіх зрззумець, што ў Шлёнску перамог ніхто іншы, як іменна працоўны народ, які застаўся верным Польшчы, трымаючыся сваей веры і мовы, і сваей воляй прымусіў дзяржавы Заходу прызнаць бязумоўна Полшчы тую тэрыторыю, на якой мы цяпер стаімо"... што „Польшча мае сваю нацыянальню амбіцыю, зьвернутую, як на ўсход так і на захад"... што „з заходу нас абкружае нацыя, якая глыбока ўелася ў нашыя землі і сілаю гвалтаў, а так сама „podstępnej" культуры адарвала нашыя землі": — дык мы, бедарусы, прагавіта ў захапленьні ловячы тут кожнае мэтнае палкае і пекнае слова высокага аратара, можам пажадаць толькі аднаго: каб усе гэтыя пекныя мысьлі і палкія словы аб правох нацыянальнасьцей на сваёй тэрыторыі, хоць бы 700 гадоў належачай да другой нацыянальнасьці дзяржавы, змагацца за свае — веру, мову і незалежнасьць роднай зямлі — проціў варожай і „podstępnej" культуры усімі срэдствамі не страцілі ні свае сьвежасьці, ні свае сілы, калі перанясьці іх... на некулькі градусаў усходняй даўжыні.., з Катавіц — хоць-бы ў Гародзеншчыну альбо Віленшчыну, — ні свае праўдзівасьці пры застасаваньні іх да беларускага народу...

***Пішыце да нас аб жыцьці—быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Нашага Сьцягу" будзе і яго супрацоунікам.***



## Перад летняй кампаніяй.

Набліжаецца найважнейшы мамэнт у жыцьці вёскі: час жніва.

У кароткі час трэба пажаць усё тое, што ўрадзіла зямля. І тут ужо нельга позьніцца, нельга адкладаць: хто прапусьціць мамэнт, той зглуміць працу ўсяго году і нічога не зьбярэць, бо зярняты з перасьпеўшых каласоў высыплюцца.

Гэты мамэнт сельска-гаспадарскія работнікі стараюцца звычайна выкарыстоўваць дзеля барацьбы за лепшыя варункі працы. Трэба спадзявацца, што і сёлета летняя кампанія збору хлеба не абойдзецца бяз сельскіх забастовак.

Орган П.П.С. „Robotnik" ужо папераджае аб гэтым. У адным з апошніх нумароў работніцкае газэты надрукавана стацьця галоўнага дзеяча па аранізацыі дворных парабкаў усяе Польшчы, Квапінскага. Апошні дае абраз нязвычайна цяжкага палажэньня парабкаў у Галічыне, дзе, дзякуючы старым, нягодным аўстрыйскім законам, паны і адміністрацыя не даюць сельскім работнікам арганізоўвацца і змагацца за лепшы быт. Квапінскі кажа, што тамака „пануюць чыста прыгонныя адносіны". Усе спробы саюза сельска-гаспадарскіх работнікаў дагаварыцца з панамі мірнай дарогай нічога не дапялі. Паны ўскладаюць свае надзеі на тое, што цяперашні ўрад іх бязумоўна падтрымае, і ня хочуць слухаць аб якой-колечы угодзе. І лідэр арганізацыі парабкаў заяўляе:

„Ну, трудна,—нам нічога больш не астаецца, як прамовіць да зьдзірцаў другім языком. Але гэта гутарка пачнецца тады, калі трэба будзе прыступаць да жніва. Трудна, мы разумеем, што ў „гаспадарцы забастоўка непажадана, але нам нічога больш не астаецца".

Пагроза сельска-гаспадарскімі забастоўкамі не абмяжовуецца аднэй толькі Галічынай. Прысяжны абаронца панскае кішані, Іоган Обст, б'е трывогу на страніцах эндэцкае „Gazety Warszawskiej", што забастовачны рух пагражае і ў нашай старане. Обст у сваей карэспандэнцыі адбівае настроі нашых абшарнікаў, якія лепш, чым хто іншы, ведаюць, чы істнуе аснова дзеля нездавольства іх парабкаў. З тону карэспандэнцыі можна судзіць, што паны пачуваюць за сабой цяжкія грахі перад сваімі рабочамі і дужа баяцца забастоўкі. Асабліва іх палохае той факт, што саюз парабкаў, які ў нас быў заснаваўся самастойна і абнімаў дагэтуль дужа невялікі абшар, цяпер шыбка расьце і абыймае ўжо чатыры паветы: „Удалося зарэгістраваць і зарганізаваць дворную службу у Вялейскім і ў часьці Сьвянцянскага паветаў, а цяпер пасылаюць сваіх агентаў у Лідзкі і Ашмянскі паветы"—жаліцца Обст. Паводле слоў Обста, арганізацыі парабкаў—дужа добрая, дый сябры яе не шкадуюць грошы на супольную справу, даючы ссыпку хлебам і плоцячы вялікія складкі грашмі.

15-га ліпня ў Вільні мае адбыцца зьезд прадстаўнікоў і дэлегатаў прафэсыянальнага саюзу сельскіх і лясных работнікаў. Ад кожнага вялікшага двара і лясьніцтва будуць пасылацца па два дэлегаты, ад меншых—па адным. А „мэтай зьезду",—як паведамляе Обст,—„мае быць арганізацыя сельскае забастоўкі падчас жніва".

Мы ня ведаем, ці запраўды зьезд робіцца дзеля арганізацыі забастоўкі, ці дзеля другіх мэт, але заяву Обста прыймаем, як доказ таго, што, паводле думак саміх-жа паноў і іхных прыслужнікаў—пісакоў, забастоўка зусім магчыма. Такім парадкам забастовачны рух можа абняць зялезным колам вялікшую часьць „крэсаў". А тое, што кіраўніцтва рухам знаходзіцца цяпер у адным цэнтры—супольным для ўсіх парабчанскіх арганізацыяў у межах Польшчы, узьвялічывае магчымасьць сур'ёзнае пастаноўкі справы і перамогі працоўнікаў.

**К. Фалькевіч.**

## Палітычныя падзеі.

### Чуткі аб інтэрвэнцыі.

Чуткі аб аружнай інтэрвэнцыі дзяржаў Антанты ўва ўнутраныя справы Савецкіх Рэспублік з мэтай рэстаўрацыі Дому Раманавых за апошнія часы ўсё часьцей зьяўляюцца, як у заграні чнай, так і тутэйшай прэсе. Трудна верыць, каб эўрапэйскія ўрады адважыліся на гэтую новую авантуру, якую, як і ўсе папярэднія, пэўна-ж, чакае няўдача, але ад засля-

Усё тое, што робілася і што робіцца на нашых землях, ёсьць праца польскай рэакцыя пры моўчалівай споўпрацы польскай дэмакратыі.

Некаторыя датыхчасныя ўрады часамі апраналіся ў дэмакратызм, але па сутнасьці былі шовіністамі. Цяпер прышлі да ўлады партыі, якія ненавідзяць дэмакратычных прынцыпаў. Зоологічны нацыяналізм тых партый ёсьць зьвернены супроць нацыянальных меншасьцяў, асабліва супроць нас украінцаў як народу ў значнай большасьці сялянскага і мы ня маем ніякіх надзей ані на хваліну і ў цэлай паўнаце здаем сабе справу з таго, што нас чакае.

Да цяперашняга ураду, ураду польскай рэакцыі, мы не маем даверра.

## Да нашых падпішчыкаў і чытачоў.

**„Наш Сьцяг"** адзіная ў Заходней Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны, хто жадае эканамічнага дабрабыту для сваей Бацькаўшчыны, каму дорага справа ее адраджэньня, хто шануе матчыну мову павінен чытаць **„Наш Сьцяг"**, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць, хто чым можа.

Сучасная усё узрастаючая дарагоўля ствараe цяжкія варункі для выданьня газэты. Ад грашовага падтрыманьня праз беларускае грамадзянства залежыць рэгулярны выхад нашай часопісі.

Усе, дзеля свaей карысьці, падпісывайцеся на **«Наш Сьцяг»** — усе гуртуйцеся пад наш сьцяг!

Рэгулярна ўнасіце цадпіску і дапдаты.

Асабліва заклікаем амэрыканскіх беларусаў і надалей надзеляць сваей дапамогай, каб не ўпаў наш сьцяг на беспатольнай Бацькаўшчыне.

**Рэдакцыя і адміністрацыя.**

# З усяе Беларусі.

## З Віленскага Жыцьця.

### СКАНФІСКАВАНЬНЕ „НАШАГА СЬЦЯГУ".

**Па загаду камісара ўраду гор. Вільні сканфіскавана № 7 „Нашага Сьцягу" за артыкулы „Горш ня будзе" і „Эканамічнае становішча Польшчы".**

**Гр. Антон Змагар**, вядомы беларускі дзеяч у Амэрыцы сабраў на сваей лекцыі ў Чыкаго 30 доляраў і 25 цэнтаў на беларускіх сірот на Бацькаўшчыне.

**Зьезд паўнамоцнікаў Віленскага Саюзу Кааператываў** закончыўся 28 чэрвеня. Старшынёй зьезду быў гр. Турчыновіч і сэкратаром гр. Дубіцкая. Вынесена пастанова зьліцца з Саюзам Таварыств Спажыўцоў Віленшчыны.

Друкуецца і хутка паступіць у прадажу кніжка А. Грыневіча „Навука сьпеву".

Дырэктар Віленс. Беларускай Гімназі А. Трэпка і сэкрэтар М. Красінскі 28-га чэрвеня выехалі ў Варшаву ў справах фінансаваньня гімназіі.

Вышла з друкі і прадаецца ў Беларускай кнігарні (Завальная 7) паэма Ул. Жылкі „Уяўленьне".

**М. Скідзяль.** (Горадзеншчына).

Шваґер нашага камэнданта паліцыі маець уласны дом пры мястачкавым выгане, а ў гэтам доме ён адчыніў шынк „Restauracja chrześcijanska". Але таргуець гэты шваґер мала, бо далёка ад рынку яго рэстаран.

I вось так неяк сталося, што каб шваґер больш таргаваў, дык прышоў такі загад, каб рынак перанясьці на выган, інакш кажучы, да рэстарана. І праўда цяпер часьць кермашу заўсёгды адбываецца на выгане: прадаюць тут коні і іншую жывёліну, а ўжо там дзе купля і прадажа там ёсьць і выпіўка. І шваґер з „Restauracji chrzescijanskiej" дужа задаволены з гэтых перамен і частых барышоў.

А трэба ведаць, што выган гэты належыць да мястачковых хлебаробаў і што ніхто ня спытаў дазволу ў іх заняць выган пад рынак. У царскія часы ўлада хацела збудаваць школу на рынку, але сяляне разважылі, што гэтая школа ім дорага абойдзецца, дык і ня далі дазволу — за то цяпер маюць рынак.

І нічога зрабіць ня могуць, круцяць галовамі, паціскаюць плечамі і ўсе чагось спадзяюцца.

Каб выпусьціць куды канянё, дык цяпер і няма дзе, а калі узьбяжыць на панскую пашу, дык прыходзіцца плаціць вялікі штраф.

Лес у нашых мясцох вырубаецца нешчадна ўвесь гэты час. Дрывамі і ацярэбінамі завалена усюды, а нам сялянам, каб'атрымаць апал, дык трэба за маленькі воз гальля заплаціць 5000 марак.

**Салавей Разбойнік.**

**В. Ракауцы**, Крэўскае гміны.

Дзеля таго, што школьны будынак зьнішчаны вайною, наша школа зьмяшчаецца цяпер у ф. Няроўцы ня вельмі далёка ад вёскі. Будынак там нельга казаць, каб быў дрэнны, але бяда што вучыцель заядлы шовіністы польскі з тутэйшых хоць ён, як быў малым, гаварыў пабеларуску, а яго бацька і цяпер гаворыць, наш вучыцель ня хоча разумецъ, як сам кажа „obcego język a," і ўсімі сіламі стараецца вывясьці яго з ужытку, але як відаць, яму гэта ня ўдасцца. Ен нават згодны вучыць парасейску, што ён і робіць, бо па палудню вучыць некаторых расейскай мове, каб толькі выжыць беларускую мову.

Ізноў нельга казаць, каб ён быў не адукованы. Зусім не. Наш вучыцель надта добра ведае гісторыю, толькі не агульную, а Польшчы і ўва ўсіх спрэчках апіраецца на яе усе даты і выпадкі, якія могуць быць вытлумачаны, што Беларусі не было, а калі і была, дык на векі самахоць далучылася да Польшчы, ён так добра вывучыў, што яго не саб'еш з панталыку.

Досыць цікакавая гісторыя вышла ў нашай школе ў гэтым годзе. Паказываў раз гэты-ж вучыцель партрэты каралёў, а адзін хлопчык вазьмі дый скажы: „Каб ён згарэў". Пан вучыцель, чуць не звар'яцеў і пачаў тлумачыць з пенай на вуснах, што гэта так вялікі чалавек, Кароль польскі і што вялікі грэх, так казаць на яго.

Няшчасны той народ, які мае такіх вучыцялёў.

**Вось.**

## З Гомельшчыны.

(Рагачоўскі павет).

**Сельска-гаспадарчая асьвета.**

З 22-га красавіка да 1-га мая ў вёсцы „Баравая Буда" Мяркулавіцкай воласьці праведзены 8-дзённыя курсы для сялян у земляўстроеных раёнах. Хадзіла на курсы 128 чалав к. У розных пунктах павету агранамічным пэрсаналам праведзена 17 лекцыяў, чытаньняў і гутарак з агульным лікам слухачоў у 1876 чалавек. Зараз у Рагачове ідуць месячныя практычныя курсы па садоўніцтву, гародніцтву і пчалярству. На курсах 30 чалавек.

# Дописы.

## Беларусы у Латвіі.

**Выстаука малюнкау.**

Ад 1 да 15 студзеня 1923 году вучнямі школ Люцына была зроблена выстаўка малюнкаў. Ад Беларускай Гімназіі была большасьць малюнкаў. Вучні першае клясы Л. Тамашыцкі і М. Калінін з Беларускае Гімназіі атрымалі першыя прэміі, па (500 лат. р.) Л. Тамашыцкі за малюнкі пэйзажаў, а М. Калінін за малюнкі партрэтаў.

## З Петраграду.

**Беларускі культурны спэктакль.**

27-га мая беларускай студэнцкай асацыяцыяй у Петраградзе быў пастаўлены спэктакль-канцэрт на беларускай мове. Мэтаю спэктаклю было азнаямленьне студэнцкай масы і часткаю петраградскай публікі з беларускаю моваю, яе паэзіяй і мастацтвам.

Была пастаўлена п'еса Аляхновіча „Калісь", якая была выканана на дзіва добра. Удзельнікі гралі з натхненьнем і зрабілі вельмі прыемнае ўражаньне на публіку, якой было да 700 чалавек. Сярод публікі апроч беларусаў было шмат і вялікарусаў.

Далей ішло канцэртнае аддзяленьне. Беларускі хор выканаў народны гімн „Адвеку мы спалі", а затым народныя сьпевы, выклікаўшыя адабраючы гул усяе залі—„Ай да каліна", „Ой, хмелю, мой хмелю" і другія. Дэкламацыя, уключыўшая лепшых паэтаў беларусаў і лепшыя іх творы, як Янкі Купалы, Цішкі Гартнага, Бядулі, Алеся Гаруна і др., прайшла з вялікім посьпехам.

Наогул, канцэртнае аддзяленьне вельмі жыва паказала ўсе прыгожыя звароты беларускай мовы.

У антрактах вяліся жывыя гутаркі між прысутных, поўных здавальненьня спэктаклем.

Сярод не-беларускай часткі публікі чуліся размовы аб беларускай мове, літэратуры і г. д.

**С. К.**

## Беларусы у Амэрыцы.

**Аб Беларускім Камітэце.**

Беларускі Камітэт распачаў даволі энэргічную працу ў Чыкаго. Кожную суботу альбо нядзелю адбываюцца сходы беларусаў ці лекцыі. У працягу траўня месяца адбылося 6 лекцый і 15 сходаў грамадзянства. З прычыны гарачыні лекцыі адбываюцца ў лесе за горадам ці на пікніках (маёўках), якія арганізуюць розныя Таварыствы. Дэлегат з Бацькаўшчыны **Антон Змагар** цешыцца вялікай папулярнасьцю сярод беларусаў, а таксама і сярод другіх нацыянальнасьцяў, якога на кожнае прадпрыемства запрашаюць, дзеля інфармацый аб Беларусі. Камітэт мае ўжо балей 500 сяброў.

## Весткі з Прагі.

**Курс беларускай мовы.**

Дзеля самаадукацыі група беларускіх студэнтаў у Празе арганізавала курс беларускае мовы. Заняткі па нядзелях.

Мэтаю курсу зьяўляецца 1) навучыцца беларускую граматыку, правапісь і наагул беларускую літэратурную мову і 2) прыгатавацца да працы пры зьбіраньні матар'ялу да беларускага слоўніка і асаблівасьцяў беларускае мовы.

**Рэфэрат С. Олесюка.**

Студэнт украінец С. Олесюк прачытаў 17-га красавіка ў Празе рэфэрат на тэму: „Беларуская праблема а Украіна". Рэфэрэнт вельмі добра орыентуецца ў беларускіх справах і прадставіў выразьліва значэньне беларускага руху для Украіны і наадварот.

## Наша пошта.

**Вясноваму Лебедзева.** Ваша карэспандэнцыя ня будзе надрукована, бо апісаны Вамі нязначны выпадак ня мае агульна грамадзкага значэньня. Пішыце часьцей. Пры карэспандэнцыях далучайце свой адрас і сапраўднае прозьвішча, якія патрэбны толькі для ведама рэдакцыі—інакш карэспандэнцыі ня будуць надрукованы.

**Пак. Трабы.** Чакаем неадкладнага Вашага прыезду ў Вільню—маем з Вамі пагутарыць у Вашай асабістай справе.

**Салаую Разбойніку.** Караспандэнцыю друкуем—дзякуем. Просім пісаць часьцей. З крыўдамі, якія там робяцца зьвертайцеся у Горадзенскі Сэкрэтарыят Беларускага Пасольскага Клюба, альбо непасрэдна ў Бел. Пасол. Клюб у Варшаву.

## Увага!

**Белрусы, якія едуць у Амэрыку зьвертайцеся там па усіх справах да Беларускага Камітэту па адрасу: Whiterussian Kommitee 1632 N. Robeystr. U. S. of America. Chicago Hl.**

**Ахвяры на прэсовы фонд.**

Ад Асташэўскага С.—10.000 м., Цыпр.—70.000 м. Даменкевіча Д.—10.500 м. Вёска Г. з Лідчыны, злажыла 73.600 м, Гаўрывовіча С. — 30.000 м., Т-ка 10.000 м. Невядомача 110.000 м.

## Курс на грошы.

**Варшава 28 чэрвеня.**

| | |
|---|---|
| Доляры | 103.000 |
| Англійскія фунты | 470.000—500.000 |
| Нямецкая марка | 67 |
| Франкі | 6320 |
| 10 руб. золатам | 69.000 |

## Сэкрэтарыят Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, I I Слабодка 8, сэкрэтар Калясінскі.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеускі.
5) **Наваградак**, Вялікі Рынак 14, сэкр. Я. Біруковіч.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28, сэкр. Ян. Шнаркевіч.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22, Г. Сабалеускі.
8) **Баранавічы**,
9) **Горадня**, Мастовая 9.
10) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв, .1 сэкр, Канстанты Карыцкі.
11) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
12) **м. Клешчэлі**, Бельскага павету.
13) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
14) **Пружаны**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.

Рэдактар-выдавец **Я. Лагіновіч.**

Друкарня **Левін і Сын**, Нямецкая 22